# КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№ 13 (185)
2016 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## "ЯНЫ КРАДУЦЬ НАШУ БУДУЧЫНЮ…"

**Кандыдат у Палату прадстаўнікоў па Лепельскай выбарчай акрузе № 23 Ягор Левачоў, які па афіцыйных дадзеных набраў 7,5 % галасоў, напісаў у фэйсбуку:**

"На тых участках, дзе сядзелі мае даверанаыя асобы, у дзень галасавання я перамог, напрыклад, з вялікім адрывам у Бешанковічах (Чарняхоўскі ўчастак № 4 і Маладзёжны №3.) У суседній вёсцы наогул напісалі тры галасы ў маю падтрымку, а там галасавалі мае сваякі, і іх, відавочна, не тры. Нашы галасы былі скрадзеныя.

Я не перажываю за тое, што не стаў дэпутатам, я перажываю за тое, што з такімі выбарамі і такімі сябрамі камісій у нас няма будучыні. Не залянуецеся і зайдзіце на сайт свайго райвыканкама і паглядзіце склад вашай камісіі - яны крадуць нашу БУДУЧЫНЮ."

Сапраўды, перамогу Ягора Левачова, як і перамогу многіх іншых кандыдатаў, можна лічыць скрадзенай.

Усе ўчастковыя выбарчыя камісіі ў нашым раёне сфармаваны яшчэ пры цары гароху і з таго часу абнаўляюцца мінімальна. Сядзяць там гульцы адной каманды – праўладнай. Улада лічыць, што яны надзейныя і справу "выбараў" ведаюць добра. Галоўнае, што яны не маюць сваіх прынцыповых пазіцый, а зробяць так, як ім скажуць. Абіраюць іх туды па тэлефоннаму званку з райвыканкама.

І вось гэтая машына пачынае круціцца на кожных выбарах, незалежна ад іх узроўню. Званок з райвыканкама, напісанне заявы ад групы грамадзян ці партыі, зацверджанне прозвішча ў выканкаме – і выбары ў надзейных руках. А на тое, што гэтым, па сутнасці, блакуецца ўвесь механізм дэмакратычнасці выбараў, райвыканкам проста закрывае вочы.

Штотычыцца праўладных кандыдатаў, і тут выбарчы механізм адпрацаваны дасканала. У нашым раёне подпісы за прэзідэнта ці праўладных дэпутатаў кожны раз збірае адна і тая ж каманда. Сярод іх пераважна настаўнікі, БРСМаўцы, дробныя чыноўнікі, якія ў выпадку адмовы могуць лёгка страціць сваю пасаду. Гэтым разам за Ігара Мартынава іх збіралі 33 чалавекі з Бешанковіцкага раёна – 28 жанчын і 5 мужчын. Ім тэлефануюць, і яны самааддана працуюць – аклады абавязваюць.

Хто можа абараніць наш выбар? Толькі мы самі. Сваёй актыўнасцю і галоснасцю ўсіх фактаў парушэнняў.

**Г.Станкевіч**

НАЗІРАННЕ

## «ПРАВА ВЫБАРУ» ПАДАЛА 768 СКАРГАЎ

**Вынікі парлеменцкіх выбараў прызнаваць немагчыма, бо яны адбываліся непразрыста і недэмакратычна. Пра гэта падчас прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў прадстаўнік кампаніі «Права выбару» Дзяніс Садоўскі.**

Па яго словах дэмакратычных актывістаў у складзе выбарчых камісій фактычна не было. Таксама фіксаваўся ціск на некаторых сябраў ініцыятыўных групаў, якія праводзілі збор подпісаў і агітацыю. З боку дзяржавы прысутнічала цэнзура падчас агітацыйнай кампаніі, падчас выступаў на тэлебачанні і ў дзяржаўных друкаваных СМІ. Праўладныя кандыдаты карысталіся большымі магчымасцямі, у тым ліку і адміністрацыйным рэсурсам.

Падчас датэрміновага галасавання найбольшай праблемай з'яўлялася фальсіфікацыя яўкі, заніжэнне спісавай колькасці выбарцаў на ўчастку, сцвярджаюць назіральнікі. У параўнанні з першым днём датэрміновага галасавання, спісавая колькасць выбаршчыкаў штучна зմяншалася на 40-45% у дзень выбараў (каб павялічыць яўку). Таксама называецца «прымус да датэрміновага галасавання». Новай адметнасцю гэтых выбараў былі «каруселі». Яны выкарыстоўваліся, як падчас датэрміновага галасавання, так і падчас выбараў, кажуць прадстаўнікі «Права выбару».

Па словах Садоўскага, падчас найважнейшага этапа — падліка галасоў, не былі выкарыстаныя нават інструкцыі Цэнтрвыбаркаму. Назіральнікі не бачылі, як адбываўся падлік. І такога падліку галасоў, падчас якога б назіральнікі бачылі «птушачку» ў кожным бюлетэні і ў які стос ён кладзецца, на абсалютнай большасці ўчасткаў Беларусі не было.

«53 назіральнікі кампаніі «Права выбару» былі выдаленыя за ўвесь час датэрміновага галасавання і ў асноўны дзень выбараў. Што з'яўляецца рэкордам для кампаніі «Права выбару». У 2015 годзе падчас прэзідэнцкіх выбараў выдалілі 36 назіральнікаў. Гэта рабілася для таго, каб ніхто не перашкаджаў фальсіфікаваць яўку і вынікі», — гаворыць Дзяніс Садоўскі.

Кампанія «Права выбару» падала 225 скаргаў падчас датэрміновага галасавання. А агулам, за ўвесь час назірання за парламенцкімі выбарамі — 768 скаргаў.

**Еўрарадыё**

НАША ГІСТОРЫЯ

## ЭКСПЕДЫЦЫЯ ПА НАШЫМ КРАІ

**Дзесяць дзён жніўня 29 адважных даследнікаў - навуковых супрацоўнікаў і валанцёраў - правялі ў экспедыцыі па Бешанковіцкім краі. Дзесяць доўгіх дзён і начэй - менавіта столькі доўжылася сумесная праца палявой школы па яўрэйскай этнаграфіі і эпіграфіцы цэнтра навуковых работнікаў і выкладчыкаў юдаікі ў ВНУ "Сэфер" і Інстытута славяназнаўства РАН (пры падтрымцы фонду "Генезіс", UJA Federation of NY і Расійскага навуковага фонду) .**

Многія даследчыкі прыехалі з Расіі і Украіны, былі тут і беларусы. Групу эпіграфістаў узначальвалі Міхаіл Васільеў, навуковы супрацоўнік Школы актуальных гуманітарных даследаванняў РАНХіГС і Аляксандра Фішал, аспірантка Інстытута ўсходніх рукапісаў РАН. Вольга Бялова, доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства РАН і Андрэй Мароз, доктар філалагічных навук, прафесар РГГУ, кіравалі этнографамі. Ледзь прыбыўшы на месца, даследчыкі адразу адправіліся на аглядную экскурсію. Каардынатар студэнцкіх праграм Ірына Капчонава адзначыла, што працаваць ім трэба будзе сур'ёзна.

На аснове вусных сведчанняў мясцовых жыхароў, старажылаў, а таксама гістарычных дакументаў трэба аднавіць гісторыю штэтла - габрэйскага мястэчка - і заняцца каталагізацыяй могілак. Зрабіць поўны спіс надмагільных надпісаў, выканаць фотафіксацыю надмагілляў, замеры камянёў. Калісьці габрэі складалі больш за 70% насельніцтва Бешанковічаў (3182 чалавека па дадзеных перапісу 1897 года). Узімку 1941-1942 гадоў большасць яўрэйскага насельніцтва было расстраляна.

За час палявой працы было апісана каля 1200 надмагілляў, датаваных канцом XVIII-сярэдзінай XX стагоддзяў, а таксама складзены падрабязны план могілак. Этнаграфічная група запісала 64 інтэрв'ю агульнай працягласцю каля 65 гадзін. Многія старажылы ўспомнілі суседзяў, якія жылі на адной з імі вуліцы, лекараў, настаўнікаў. Кагосьці ўспамінаюць па расказах іншых людзей. Забытыя імёны вяртаюцца. Можа, пачуўшы іх, хтосьці пазнае лёс родных. Даследчыкам удалося сабраць шмат архіўных дакументаў, фота- і відэаматэрыялаў.

Мне ж цікава было знаходзіцца сярод іх, назіраць, з якім стараннем яны мыюць, чысцяць і фатаграфуюць надмагільныя камяні. Іх энергія, запаленыя вочы і баявы запал натхніць кагозаўгодна. Незабыўныммаралася і зносіны з геадэзістамі, складнікамі планаў. Незвычайным здаваўся пераклад паўсцёртых надпісаў. Самы даўні сярод знойдзеных ставіцца да 1772 года. На многіх паказана, адкуль родам памерлы: Віцебск, Чашнікі, Ула, Любава. Большасць помнікаў ўяўляюць сабой традыцыйныя каменныя стэлы - так званыя мацэвы. На асобных з іх ёсць надпісы на іўрыце і па-руску. Хто б мог падумаць, што знойдзеныя камяні аднойчы змогуць "загаварыць".

*(працяг на стар. 2)*

****

*Ах, як хораша тут,*
*бы ў краіне дзяцінства майго,*
*калі сонца ў тумане*
*яшчэ не асыпала росы,*
*калі раптам світанак*
*насустрач памкнецца з лугоў,*
*як і сам я калісь*
*такі ж голагаловы і босы.*

*Ён расой свае ногі апёк*
*і прысеў на пянёк,*
*кармазін ступакоў*
*у крысо далягляду захутаў.*
*Эх і слаўны, напэўна,*
*надарыцца сёння дзянёк,*
*што пакуль, быццам кот*
*на ляжанцы, мурлыча ціхутка.*

*Туманы над імшарай*
*яшчэ калыхаюць зямлю,*
*пад акном вочы трэ*
*арабінка ў зялёнай туніцы.*
*Вецер моцным спіць сном.*
*Як прачнецца – яго пацвялю,*
*не чапляўся каб больш*
*да знаёмай маёй вербы ніцай.*

*Я прысню, што ты дрэмлеш*
*салодка ў абдымках маіх,*
*у тваіх валасах*
*пацалунак заблытаўся ціхі.*
*Але ж як вар'яцеюць*
*ад спеваў птушыных гаі!*
*На сустрэчу*
*да зор захмялелых*
*ляцiць пошчак іхні.*

*Прачынайся хутчэй.*
*Пойдзем мы, пакуль свет*
*не пабляк,*
*россып знічак шукаць*
*на зямлі між крышталікаў*
*росных,*
*назіраць, як ад сонейка*
*ўсмешкі*
*цяплее зямля,*
*як малы павучок тчэ вясёлку*
*на сонечных кроснах.*

*Як вясёлкавы дзень*
*разбівае туман напавал,*
*як залоцяць прамені*
*вяршыню магутнага дуба.*
*І захочацца жыць,*
*і вясёлыя песні спяваць,*
*і дарыць табе ўсмешкі,*
*і вусны твае цалаваць,*
*і цябе называць*
*непаўторнай, адзінаю, любай.*

***Г.Станкевіч***

НАША ГІСТОРЫЯ

*(пачатак на стар. №1)*
Стагоддзямі яны захоўвалі забытае, згубленую спадчыну. Сёння прыйшоў час яе аднавіць. Служыцель сінагогі з Любавы, доктар з Віцебска, дзеці, парадзіха, тапелец ... Пра кожны з іх застаўся успамін. У кагосьці на камені - карцінка: цагляная сцяна, а ў ёй - вароты, як сімвал пераходу з гэтага свету ў іншы свет. Ёсць калоны і аркі, а таксама рукі, якія паказваюць дабраслаўленне коэнаў - нашчадкаў першасьвятароў. Адны камяні захаваліся цалкам, іншыя ацалелі часткова. Традыцыйна тэксты эпітафій пачынаюцца фразай: "Тут спачывае...", а завяршаюцца добрымі пажаданнямі нябожчыку: "Хай будзе душа яго завязана ў вузьле жыцьця". Тэксты цікавыя асаблівасцямі арфаграфіі, вялікай колькасцю нестандартных скарачэнняў і абрэвіятур. Сустракаюцца імёны габрэйскія і негабрэйскія. Усе яны цікавыя і незвычайныя: Ружа, Песя, Цыпа, Фрыда, Іосіф, Якаў, Абрагам, Даў-Бер, Аблі, Гедальягу, Шнеур-Залман. Пра людзей сказана шмат добрага, паказаная іх сціпласць, пабожнасць.

Даследчыкі добра папрацавалі. Задачу сваю яны выканалі, стаміліся вельмі, але да канца працы яшчэ далёка. Трэба будзе зрабіць многае. Наперадзе - апрацоўка здабытых палявых матэрыялаў, падрыхтоўка артыкулаў для зборніка, прысвечанага гісторыі і культуры габрэяў Бешанковічаў, які стане часткай беларускай серыі выданняў палявых матэрыялаў Цэнтра "Сэфер" і Інстытута славяназнаўства РАН.

А мне яшчэ доўга будуць успамінацца даследчыкі, іх нястомная энергія, што кліча вясной у дарогу, з экспедыцыі ў экспедыцыю. Але не страшныя ім ні далёкія падарожжы, ні спякота, ні холад, бо іх праца - адраджаць забытую спадчыну.

**Марыя Петухова**
**"Зара"**

ЗДАРЭННІ

# ВАЎКІ ЗНІШЧАЮЦЬ АВЕЧАК

**За перадвыбарчы тыдзень каля вёскі Будзілава Бешанковіцкага раёна ваўкі знішчылі больш за два дзесяткі авечак, што належаць насельніцтву.**

Мясцовыя жыхары кажуць, што блізу вёскі арудуе цэлая зграя шэрых разбойнікаў. З іх словаў, авечкі безнадзорна пасвіліся ў полі блізу вёскі цэлае лета, але, нібыта, заставаліся цэлымі. З надыходам восені за адзін суботні вечар 10-га верасня іх колькасць зменшылася на 16 галоў.

Ёсць інфармацыя, што ваўкі наведваліся ўжо непасрэдна на падворкі, дзе прычынілі нямалую шкоду.

**А.Тутэйшы**

# СМЕРЦЬ ПАД КОЛАМІ

**3-га верасня каля 21-20 жыхар г.п. Бягомль 1953 г. года нараджэння і яго пасажырка жыхарка вёскі Бачэйкава Бешанковіцкага раёна ехалі на мапедзе «Дэльта» ў бок горада Мінска на аўтадарозе М-3 Мінск – Віцебск.**

Кіроўца мапеда знаходзіўся ў моташлеме, а вось у яго пасажыркі яго не было. У Докшыцкім раёне, за два кіламетры ад г.п. Бягомль, каля 21-20 на прамым і прагляданым участку дарогі, кіроўца мапеда выехаў на паласу сустрэчнага руху і трапіў пад колы аўтапоезда маркі «ДАФ» з паўпрычэпам, якім кіраваў ураджэнца Рэспублікі Казахстан 1974 года нараджэння.

У выніку сутыкнення кіроўца мапеда загінуў на месцы здарэння, а яго пасажырка памерла па дарозе ў бальніцу.

Прычыны ДТЗ устанаўліваюцца.

**М.Васільеў**
**з сводак УУС**

НАВІНЫ СПОРТУ

# ПЕРАМОГА НА ФІНІШЫ ЧЭМПІЯНАТУ

**10-га верасня пры летнім сонечным надвор'і і пустых дамашніх трыбунах ФК "Бешанковічы" выгуляў з лікам 1 : 0 у талачынскай "Нівы".**

Гульня была цікавай і дынамічнай, атакавалі абедзьве каманды. Лік мог быць і больш буйным, але мяч упарта не ішоў у браму талачынцаў. Яшчэ ў першай палове гульні мяч двойчы трапляў у перакладзіну брамы гасцей. Небяспечныя моманты каля варот гаспадароў узнікалі таксама, але з імі паспяхова спраўляўся варатар бешанковіцкай каманды, які паказаў надзейную гульню. Першы тайм закончыўся з лікам 0 : 0.

У другой палове бешанковіцкія футбалісты атакавалі, талачынцы працягвалі кантратакаваць. Часам здавалася, што яны вось-вось перахопяць ініцыятыву. Але за некалькі хвілін да заканчэння сустрэчы ФК "Ніва" прапусціў адзіны гол. Ён быў забіты з штрафнога ўдара, хаця гэты ўдар больш паходзіў на просты навес на вароты. Варатар талачынцаў не разлічыў траекторыю мяча, і той апынуўся ў сетцы.

Бешанковіцкі клуб атрымаў другую запар перамогу, і трэцюю ў гэтым сезоне. Гэта перамога дазволіла нашым футбалістам сысці з апошняга радка турнірнай табліцы. Калі б не дзіравая абарона, то ФК "Бешанковічы" мог бы разлічваць нават на прыстойнае месца ў тройцы лідэраў.

**Г.Станкевіч**

ЮБІЛЕЙ

# ПРЫНЯЦЬ УЗНАГАРОДУ — ЯК ПЛЮНУЦЬ САБЕ Ў ДУШУ

**Зорны час часопісу «Полымя» — 1986-2002 гады, калі ягоным рэдактарам быў Сяргей Законьнікаў. А як пачуваюцца літаратурныя часопісы пад кантролем прыўладнага Саюзу пісьменьнікаў? І чаму традыцыйны Дзень беларускага пісьменства нагадвае баль падчас чумы? Пра гэта — у гутарцы з паэтам, якому 16 верасьня споўнілася 70 гадоў.**

***— Сяргей Іванавіч, яшчэ сто дваццаць гадоў Оскар Уайльд канстатаваў: «Раней вершы пісалі паэты, а чыталі іх чытачы. А цяпер чытачы пішуць вершы, якія ніхто не чытае». У Беларусі сёньня падобная сытуацыя?***

— Калі браць сытуацыю, якая склалася зь літаратурай, то яна неяким чынам парадаксальная. У савецкі час, помніцца, быў бум на тоўстыя часопісы. Літаратура даходзіла да чытача праз іх, вершы паэты чыталі нават на стадыёнах. А былі і паэты, якія не маглі друкавацца, фактычна, знаходзіліся ў падпольлі. Цяпер жа паэты выйшлі з падпольля — поўная свабода, а ў падпольле пайшлі чытачы. Попыт на кнігу ўпаў. Але трэба не забываць, што ня кожны сёньня можа купіць кнігу. Раней яна каштавала 40 капеек, а пляшка гарэлкі — 2 рублі 87 капеек. А цяпер якія суадносіны? Тры плюшкі можна купіць за адну кнігу! А што тычыцца паэзіі як такой, то мне здаецца, што чалавецтва толькі тым і можа апраўдацца, што прыдумала паэзію. Лепшай формы мовы, чым паэзія, няма.

***— На пачатку верасьня ў Рагачове прайшоў традыцыйны Дзень беларускага пісьменства, нават былі ўручаныя ад дзяржавы прэміі за лепшыя кнігі. У інтэрнэце дасьціпнікі жартавалі: «І я быў на Дне пісьменства». А як вам бачыцца сытуацыя — гэта ўсё ж сьвята літаратуры, ці насамрэч — дно (з улікам таго, каму тыя прэміі дасталіся)?***

— Сярод прэміяваных у Рагачове быў і мой сябра-аднакурсьнік Мар'ян Дукса. Гэта добры паэт, і я рады, што яму ўручылі прэмію. Іншая справа, што сьвята пісьменства было б дарэчы, калі б кожны дзень мы купаліся ў роднай мове, калі б мова гучала ў школе, ВНУ і на вуліцы. Вось тады, як кульмінацыя ўсяго, было б да месца і сьвята. А калі ў нашай незалежнай краіне мова гучыць толькі зрэдку, калі яна загнаная ў гета, а ўлады адзін раз на год ладзяць дзень пісьменства, дзе ўручаюць прэміі і гавораць, якая ў нас слаўная мова... Якая ж яна слаўная, калі не гучыць у дзяржаўных установах?

***— Купалаўскі гусьляр гаварыў: «Гусьлям, княжа, ня пішуць законаў». У нас жа дзяржава пайранейшаму спрабуе кіраваць літаратурай. Якія вам тут бачацца плюсы і мінусы?***

— Практыка, калі дзяржава пэўным чынам уплывае на літаратуру, ёсьць паўсюль. Скажам, пісьменьнік заяўляе, што будзе пісаць раман і дае гарантыю, што напіша. Яму выдаецца, прыкладам, на два гады дзяржаўная стыпэндыя — невялікая, але на хлеб з маслам хапае. У нас падобнай практыкі няма. У нас дзяржава дзейнічае па-другому. Мяне з пасады галоўнага рэдактара «Полымя» ў 2002 годзе прыйшоў здымаць цэлы ўзвод на чале з генэралам КДБ. І я тады ім проста ў вочы сказаў: «Вы банда, якая хоча зьнішчыць часопіс!». Калі мяне і маіх калегаў звальнялі, з таго боку чулася: «Законьнікаў друкуе толькі Быкава, Гілевіча ды іншых няўгодных дзяржаве пісьменьнікаў, а маладых зацiскае». Дарэчы, гэта была абсалютная лухта, друкавалі мы ўсё таленавітае, у тым ліку і маладых не забывалі. Прайшло прыкладна два гады пасьля нашага звальненьня, я пагартаў тое ж «Полымя» — дык там адны і тыя ж аўтары — Чаргінец, Скобелеў, Мятліцкі і Гніламёдаў. Гэта клан, які стварыў свой саюз, мае ў сваіх руках часопісы. Я нічога супраць ня маю. Захацелі саюз — ствараце, але ж не ваюйце вы з другім саюзам. А мне неаднойчы гаварылася: «Сяргей Іванавіч, мы па розныя бакі барыкадаў, мы з табой будзем ваяваць не на жыцьцё, а на сьмерць». Замест таго, каб яднаць грамадзтва, прыўладны саюз настроены на вайну. А адзін з чыньнікаў, які яднае грамадзтва, гэта мова. Якая бяз мовы можа быць культура? Тая культура, якая ствараецца сёньня ў Беларусі, гэта невядома што, гэта нейкая эклектыка, нейкае псэўда. Немагчыма ствараць беларускую літаратуру на другой мове. Пішыце парасейску, на здароўе, але вы ствараеце літаратуру, якая служыць расейскай культуры. Можа, мой падыход трошкі радыкальны, але ён правільны.

***— Акалібсёньня вам сказалі, што «за вялікія заслугі ў галіне літаратуры і ў сувязі з 70-годзьдзем прынята рашэньне...». Вы прынялі б узнагароду?***

— Ні ў якім разе! Прыняць ад такой дзяржавы ўзнагароду — проста напляваць сабе ў душу. Я такога ніколі не зраблю. Я хачу жыць з чыстай душой. Паўтаруся, я ў жыцьці нікому нічога кепскага не зрабіў і магу спакойна глядзець людзям у вочы. Я рады, што так мне ўдалося пражыць.

***— Адзін грузін пераплыў пратоку Дарданелы са зьвязанымі рукамі. І мне падумалася — «вось сымбаль твой, забыты краю родны». Ці доўга яшчэ беларусам плыць па рацэ гісторыі са зьвязанымі рукамі?***

— Думаю, рукі нам даўно пара разьвязаць. Самім — не чакаць на ласку чужога дзядзькі. Калі ты ўспомніш таго сьмелага грузіна, я прыгадаў Васіля Быкава. Сваім жыцьцём і творчасьцю Васіль Быкаў — адзін! — апраўдаў нашу нацыянальную годнасьць. І ён якраз плыў па рацэ жыцьця са зьвязанымі рукамі. Але нават са зьвязанымі рукамі ён зрабіў тое, чаго не зрабіў бы чалавек з рукамі свабоднымі. А беларусы абавязкова выплывуць, нават калі ім прывяжуць на шыю гіру. Мы неаднойчы выплывалі з самых вірлівых плыняў. Наш стыль не падобны ні на брас, ні на батэрфляй, але мы выплывем.

**Міхась Скобла**
**"Радыё Свабода"**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ВЫНІК КАМПАНІІ

# НОВАЯ КАРЦІНА БЕЛАРУСКАГА СЬВЕТУ: «АДМАРОЗКІ» Ў ПАРЛЯМЭНЦЕ

**Відавочна, што прамінулыя выбары былі, як і раней, цалкам кіраваныя. І прайшлі яны згодна са звычайным беларускім сцэнаром. Адзіная навацыя, якую цяпер усе абмяркоўваюць, — гэта пропуск у Палату прадстаўнікоў дзьвюх дэмакратычных дэпутатак. Пра ўсё астатняе даўно ўсё сказана.**

Усім зразумела, што зьяўленьне Ганны Канапацкай і Алены Анісім у сьпісе дэпутатаў — вынік палітычнага рашэньня на самым версе. Па лёгіцы кіраўніцтва, яно павінна вырашыць прынамсі дзьве задачы. Па-першае, нэўтралізаваць пазыцыю праваабаронцаў, незалежных экспэртаў і апазыцыі, якія сьцьвярджаюць, што выбараў у Беларусі няма. Маўляў, глядзіце: апазыцыянэры будуць засядаць у Палаце прадстаўнікоў, якія пытаньні?

Другая задача, якую вырашалі ўлады гэтым крокам, зьвязаная з вонкавым чыньнікам. Зьяўленьне ў парлямэнце двух апазыцыйных дэпутатаў павінна стаць дадатковым аргумэнтам для назіральнікаў АБСЭ, павінна даказваць, што ў беларускіх выбарах ёсьць прагрэс у бок дэмакратыі.

Але адначасова зьяўленьне апазыцыі ў Палаце прадстаўнікоў нясе ўладам пэўныя выклікі і рызыкі. Бо гэта пэўны крок у бок ускладненьня палітычнай сыстэмы ці яе дызайну. Да гэтага часу яна была ясная і простая, як аглобля. Паводле афіцыйнага ідэалягічнага канструкту, увесь народ падтрымлівае ўладу і прэзыдэнта, апазыцыі ў краіне няма, ёсьць толькі купка «адмарозкаў», «пятая калёна».

Якраз пра гэта сказаў Аляксандар Лукашэнка на выбарчым участку 11 верасьня:

«Апазыцыя павінна быць, або мы будзем мець вялікія праблемы. Але яна не павінна быць пятай калёнай. Трэба быць бліжэй да праблемаў людзей, нават калі гэта аб'ектыўна цяжка. Ну, так, гэты спэктар заняты, усе клапоцяцца аб народзе, пачынаючы з прэзыдэнта і заканчваючы старшынёй сельсавету. Але розьніца ў тым, хто гэта робіць на справе, а хто мянціць языком. Давайце прабачым ім гэта, яны і так ужо пакараныя».

То бок апазыцыя ва ўяўленьні Лукашэнкі, якое ён 22 гады навязвае беларусам, — гэта далёкія ад інтарэсаў народу людзі, бо ў іх няма нішы, пра народ клапоціцца прэзыдэнт і ягоная вэртыкаль. У такой сыстэме апазыцыі няма месца. Таму гэта ўбогія, пакараныя лёсам людзі. Адным словам, «адмарозкі». Такая простая карціна сьвету. Гэта ў Расеі дзейная ўлада вядзе складаныя гульні, Крэмль сам стварае сабе левую і правую апазыцыю, усяляк маніпулюе палітычным працэсам. А тут палітычны малюнак быў прымітыўны, ён складаўся з двух колераў: белага і чорнага. І без аніякіх разнастайнасьцяў. Лукашэнка нават крытыкаваў расейскія парадкі — маўляў, навошта гэтыя хітрыкі, трэба проста і шчыра размаўляць з народам.

І вось цяпер гэтыя «адмарозкі» зьявіліся ў парлямэнце з дэпутацкімі мандатамі

І вось цяпер гэтыя «адмарозкі» зьявіліся ў парлямэнце з дэпутацкімі мандатамі. І гэта крыху зьмяняе ўсю карціну і афіцыйны ідэалягічны дыскурс. Улады ж ня могуць прызнаць, што яны там зьявіліся ў выніку рашэньня Лукашэнкі. Сам гэты факт легітымізуе апазыцыю як інстытут. Беларускім прапагандыстам давядзецца афіцыйна прызнаць, што апанэнты рэжыму прадстаўляюць інтарэсы пэўнай часткі грамадзтва. Іх нельга ігнараваць у дзяржаўных установах, дзяржаўных мэдыях.

То бок пропуск апазыцыі ў сыстэмную палітыку — гэта новы выклік і рызыкі найперш для ўлады. Бо любое ўскладненьне сыстэмы — гэта заўсёды новыя праблемы. Дарэчы, для апазыцыі таксама, пра што сьведчаць некаторыя працэсы ў АГП.

Цяпер усё залежыць ад таго, як апазыцыя выкарыстае гэтую сытуацыю. У свой час, на пачатку 2000-х гадоў, парлямэнцкая група «Рэспубліка» ў складзе Валера Фралова, Сяргея Скрабца і Ўладзімера Парфяновіча слаўна пашумела.

Дэмакратычныя прадстаўнікі могуць паспрабаваць навязаць уладам свой парадак дня. Калі дэпутат парлямэнту выступае зь нейкай ініцыятывай, якую ён адначасова трансьлюе ў грамадзтва з дапамогай незалежных мэдыяў і сацыяльных сетак, то ўладам цяжка будзе гэта ігнараваць, давядзецца неяк рэагаваць, апраўдвацца.

Увогуле, могуць узьнікнуць цалкам нечаканыя сюжэты. Напрыклад, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька стане памочнікам дэпутата ад сваёй партыі і зьявіцца ў будынку Палаты прадстаўнікоў на законнай падставе з адпаведным пасьведчаньнем. Уяўляеце, які будзе фурор. І што з гэтым рабіць? Не пускаць яго туды? А на якой юрыдычнай падставе? А калі пусьціць, то ён там у кулюарах будзе ўвесь час у атачэньні журналістаў, пачне ў мітынговым стылі зьедліва камэнтаваць кожны крок парлямэнту. У любым выпадку — скандал. Ва ўмовах поўнай адсутнасьці палітычнага жыцьця ў краіне і гэта можна назваць палітыкай.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**




ПАЛАТА №6

# ЛУКАШЕНКО НАРУШИЛ СТЕРИЛЬНОСТЬ ПАЛАТЫ

**Белорусские власти попытались смикшировать грубые нарушения в ходе кампании пропуском в парламент двух оппозиционных фигур.**

Белорусские власти увенчали парламентскую кампанию довольно сильным ходом. На целиком подконтрольных выборах в Палату представителей, прошедших 11 сентября, мандат, по предварительным данным, получила представительница Объединенной гражданской партии (ОГП) Анна Канопацкая. Также обозреватели выделяют победу Елены Анисим из «Таварыства беларускай мовы», которая хоть и не входит ни в какую партию, но воспринимается как умеренная оппозиционерка.

В прежние созывы Палата фигурировала в независимой прессе с язвительным ярлыком «стерильная», поскольку в Овальном зале заседали сугубо лояльные персонажи. Хотя и по итогам выборов 11 сентября в нижнюю палату прошли почти поголовно такие же фигуры, но говорить о полной стерильности законодательного органа теперь не приходится.

В частности, ОГП, выдвинувшая Канопацкую, стоит на позициях жесткой критики режима Александра Лукашенко. ТБМ же теребит власти, чтобы возрождали белорусский язык, а это у нас почти синоним оппозиционности.

Впрочем, сейчас Анисим как раз-таки удобна людям наверху в плане продвижения негласной политики мягкой белорусизации. Можно картинно развести руками перед Москвой, если там натопырятся, заподозрив измену: это же не мы, это все оппозиция воду мутит.

**Спутали карты оппозиционерам**

Белорусский официальный лидер не особо склонен к тонкой внутриполитической игре. Созданная им система груба, но надежна: у президента — царские полномочия, безголосый парламент послушно штампует спущенные из правительства или президентской администрации законы.

Но, как видим, жизнь заставляет идти на более изощренные по белорусским политическим меркам сценарии.

Смотрите, что получается. На протяжении всей минувшей кампании оппозиция твердила, что выборы нечестные. В последние дни было много заявлений о том, что накручивается явка, комиссии отшивают наблюдателей и пр. В округе, где баллотировалась Канопацкая, электоральный процесс тоже выглядит не вполне чистым.

Лидер ОГП Анатолий Лебедько, другие представители правоцентристской коалиции подчеркивают, что их оценка кампании не меняется. Вердикт правоцентристов суров: «Власть назначила всех 110 депутатов».

Но при этом оппозиционной партии неразумно отказываться от мандата, от трибуны пусть себе и в недемократичном, административно сформированном парламенте. Короче, неожиданная коллизия, шахматная вилка для тех, кто априори собирался доказывать нелегитимность этих выборов.

Попутно власти, как предполагают некоторые обозреватели, дали показательный щелчок Татьяне Короткевич из «Говори правду», которая была соперницей действующего президента на прошлогодних выборах и, надо же, не удосужилась поздравить победителя, а совсем даже наоборот — обжаловала итоги выборов в Центризбиркоме. Впрочем, самое главное — Короткевич тогда резко подняла свой рейтинг (в Беларуси же, согласно представлениям на самом верху, должен быть только один политик). Теперь ей насчитали скромный результат в том же округе, где баллотировалась Канопацкая.

Кроме всего прочего, запутывается дело с репутацией «Говори правду», которую более радикальные оппозиционеры относили к спарринг-партнерам властей. Сейчас представители этой кампании, продвигающей лозунг мирных перемен, могут укоризненно бросить хулителям: видите, зря на нас бочки катили!

Да, и, учитывая зацикленность оппозиции на поиске агентов в своем лагере, нетрудно предвидеть, что прошедшие в парламент оппозиционерки тоже до дна изопьют горькую чашу подозрений.

**Сделали подарок Западу**

Но, конечно же, всю эту хитрую катавасию наверху затеяли отнюдь не только ради для того, чтобы спутать карты оппозиционерам, лишний раз столкнуть их лбами (и так сшибаются то и дело).

Фишка в том, что власти хотят гарантированно получить от Запада достаточно благоприятную оценку этих выборов.

Декоративных процедурных изменений, оформленных решениями Центризбиркома, для этого могло оказаться маловато. Ведь принципиальные рекомендации БДИПЧ ОБСЕ так и не были выполнены. В избирательных комиссиях оказалась лишь горстка оппозиционеров, их жестко отсеивали. Были случаи фактической цензуры кандидатских выступлений.

В добавок для обеспечения явки вертикаль широко использовала добровольно-принудительный механизм досрочного голосования (за пять дней перед 11 сентября таким образом проголосовало более 31% избирателей). Согласно сигналам наблюдателей, во многих местах явка к тому же и беспардонно завышалась.

В итоге накопилась довольно внушительная масса негатива, претендующего на попадание в отчет наблюдателей БДИПЧ ОБСЕ. Этот отчет, в свою очередь, будут брать во внимание политики Евросоюза и США, принимая решение о дальнейшей судьбе отношений с Беларусью. А от этих отношений зависит получение Минском западных денег, возможность геополитического балансирования.

Потому и был сделан ход конем. Некоторые европейские деятели открытым текстом объясняли властной верхушке: будет оппозиция в парламенте — будем иметь с вами дела. Ну так вот, получайте.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**Белапан**

НАЗІРАННЕ

# БДІПЧ АБСЭ: НЕ АДПАВЯДАЛІ МІЖНАРОДНЫМ СТАНДАРТАМ

**Назіральнікі БДІПЧ АБСЭ заявілі, што парлямэнцкія выбары ў Беларусі не адпавядалі ключавым міжнародным стандартам правядзеньня дэмакратычных і свабодных выбараў.**

Кіраўнік місіі БДІПЧ АБСЭ Кент Гарстэт заявіў, што беларуская ўлады напярэдадні выбараў далі шэраг абяцаньняў адносна празрыстасьці выбарчага працэсу, але да канца іх ня выканалі.

**У пісьмовай вэрсіі дакумэнта фармулёўкі АБСЭ больш абцякальныя:**

"Місія назіральнікаў АБСЭ на выбарах у Палату прадстаўнікоў адзначыла ў сваёй папярэдняй ацэнцы 12 верасьня, што беларускія ўлады арганізавалі гэтыя выбары эфэктыўна, але ня здолелі ліквідаваць «шэрагу сыстэмных недахопаў» у выбарчым працэсе.

«Нарматыўна-прававая база абмяжоўвае палітычныя правы і асноўныя свабоды, і яна была інтэрпрэтаваная празьмерна абмежавальным чынам. Асьвятленьне ў СМІ не дазволіла выбаршчыкам зрабіць усьвядомлены выбар і, нягледзячы на агульнае павелічэньне колькасьці кандыдатаў, у тым ліку значнай колькасьці з апазыцыі, кампаніі не хапала бачнасьці» — гаворыцца ў заяве.

«Ясна відаць, што Беларусі паранейшаму застаецца прайсьці пэўную дарогу, каб выканаць свае дэмакратычныя абавязаньні. Перад выбарамі ўлады зрабілі шэраг абяцаньняў адносна празрыстасьці працэсу і выканалі іх часткова, але недастаткова» — сказаў Кент Гарстэдт, спэцыяльны каардынатар і кіраўнік кароткатэрміновага назіральнай місіі АБСЭ.

«Учора галасаваньне прайшло спакойна і добра арганізавана, хоць былі засьцярогі з нагоды падліку галасоў. Тым ня менш, выбары не абмяжоўваюцца толькі днём галасаваньня, і гэтыя выбары паказалі, што Беларусь, як эўрапейская краіна, мае патрэбу ў сапраўды канкурэнтнай палітычнай сыстэме для таго, каб рэалізаваць свой дэмакратычны патэнцыял» — сказала Гізэля Вурм з Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы. «Таму вельмі важна, каб неадкладна пачаць неабходныя рэформы нарматыўна-прававой базы, каб забясьпечыць стварэньне такой сыстэмы, якая зьяўляецца ключавым элемэнтам для дэмакратычнай стабільнасьці».

«Абмежаваньні асноўных свабодаў асацыяцыі, выказваньня меркаваньняў і сходаў звузілі грамадзкую прастору і адмоўна адбілася на палітычным асяродзьдзі, у якім былі праведзеныя выбары. У той час як кандыдаты, як правіла, маглі свабодна праводзіць агітацыю ў рамках закону, вялікая колькасьць выраслая не рабіць гэтага, што спрыяла апатыі выбаршчыкаў. На пазытыўнай ноце трэба адзначыць, што інструкцыя Цэнтральнай выбарчай камісіі адносна больш дазвольнага разьмеркаваньня грамадзкіх месцаў для агітацыі была выкананая шматлікімі мясцовымі органы ўлады. Аднак няроўны доступ да дзяржаўных і грамадзкіх інстытутаў і рэсурсаў сказіў гульнявое поле для кандыдатаў. У сукупнасьці, гэта абмежавала даступныя магчымасьці выбару для выбаршчыкаў» — лічыць назіральная місія АБСЭ.

Заява назіральнай місіі АБСЭ таксама адзначае тое, што ў выбарчых камісіях апынулася толькі нязначная колькасьць прадстаўнікоў апазыцыйных кандыдатаў і што адсутнасьць цэнтралізаванага рэестру выбаршчыкаў прывяла да адсутнасьці гарантый абароны ад шматразовага галасаваньня.

«Пастаянныя недахопы, якія мы вызначылі ў ходзе назіраньня за гэтымі выбарамі, паказваюць на той факт, што даўнія рэкамэндацыі застаюцца нявыкананымі» — заявіла Тану дэ Зулуэту, кіраўніцу доўгатэрміновай місіі АБСЭ па назіраньні за выбарамі".

**Радыё Свабода**

ТАКАЯ ГІСТОРЫЯ

# ПОЧЕМУ КОЛЮ ВДРУГ РАЗЛУЧИЛИ С ОТЦОМ

**31 августа младшему сыну президента Беларуси Коле Лукашенко исполнилось 12 лет. Обычно главы государств постсоветского пространства не демонстрируют своих отпрысков. Но Коля — особый случай. Сложно найти в стране более медийную персону, разве что сам его папа.**

Да и в мировом масштабе известности маленького Лукашенко могут позавидовать иные звезды. Но этим летом глава Беларуси повсюду появлялся в одиночестве. Случился ли скандал в президентском семействе или наследнику просто устроили каникулы, сменил ли Лукашенко имидж или в воспитательный процесс вмешалась мама, разбиралась «Лента.ру».

**Тайна рождения**

История появления на свет маленького Коли, как и положено у монархов, окутана тайной. О том, что у белорусского президента не два, а три сына, общественность узнала почти через четыре года после рождения младшего. А все потому, что Николай рожден вне брака. Имя матери возможного преемника официально объявлено так и не было.

Между тем СМИ утверждают, что мама Коли — Ирина Абельская, бывший лечащий врач главы государства. Про нее известно немного: родилась в Бресте, от первого брака имеет сына Дмитрия, с 1994 по 2001 год была личным доктором президента. В 2001-м Абельская получила должность главного врача Республиканского клинического медцентра Управления делами президента, а ее мать, Людмилу Постояло, назначили министром здравоохранения Беларуси. По слухам, тайные отношения президента с Абельской прекратились в 2007 году. В это же время у нее забрали сына Колю, который стал повсюду сопровождать отца.

Сам Лукашенко говорил по этому поводу: «Так у меня судьба сложилась. Откровенно вам скажу, что если меня нет дома, он [Коля] не спит, не ест, это вообще не ребенок. Вот он привязан, как хвост, и это уже не первый год. Я в зарубежную командировку вынужден его брать, потому что он не будет спать, он дойдет до изнеможения. Со мной в самолете он поспит, поест — он привязан к отцу. Ну что, я его должен отпихивать, он что, мне мешает?»

…И без ложной скромности добавил, что таких отцов, как он, очень мало: «Я и старших своих детей безумно любил. Если у меня маленький ребенок — все, я забываю о какой-то там любви, о чем-то, у меня есть работа, и у меня есть ребенок, я ну до бешенства люблю детей. Это и старших касалось, и этого ребенка касается, это святое».

Клуб путешественников

Коля Лукашенко был представлен миру в апреле 2007 года, и сразу же отец объявил его уникальным человеком. Белорусский лидер заявил, что не надеется на своих старших сыновей и не считает их своими преемниками (Виктор — член Совбеза республики, помощник президента, Дмитрий — член Национального олимпийского комитета, глава Президентского спортивного клуба). А вот Коля, которому на тот момент не исполнилось и четырех лет, по его мнению, может стать президентом. «Очень подвижный и, извините за нескромность, умный мальчик. Он все понимает, все знает, где что можно, где нельзя. Поэтому это уже, знаете, как, может, грубо скажу, как талисман мой, это мой крест, вот я его несу», — не без гордости рассказывал глава государства.

В свои 12 лет Николай Лукашенко может похвалиться знакомством с Владимиром Путиным, Виктором Ющенко, Дмитрием Медведевым, Мишель и Бараком Обама и двумя Папами Римскими — Бенедиктом XVI и Франциском. Первые встречи давались мальчику с трудом, он отвлекался, скучал, теребил отца, садился к нему на колени, а иногда прерывал выступления и просил уйти. Президент рассказывал о таких приемах: «Я говорю: „Коля, сядь рядом, ну не надо на колени, это же официальные переговоры". Он тут устроил скандал: „Нет, я хочу с тобой на колени. Ты мой папа, я хочу с тобой на колени". Ну что тут скажешь, когда уже операторы сидят, журналисты, все — „Да ладно, сядь ты уже на колени"».

**Сумасшедшая отцовская любовь**

В последние восемь лет без Коли не обходилось практически ни одно мероприятие с участием президента, включая протокольные. Малышу, как любит называть его Лукашенко, приходилось скучать на переговорах папы с президентами стран ближнего и дальнего зарубежья, стоять на трибуне во время военных парадов по случаю Дня независимости, позволять гладить себя по голове Папе Римскому Бенедикту XVI, участвовать в саммитах СНГ, «Славянских базарах», ездить по регионам, пострадавшим от чернобыльской аварии, а также на Олимпиады в Пекин и Сочи. Коля опускал заполненный отцом бюллетень в урну на парламентских выборах, клал кирпичи на строительстве аквапарка и неоднократно участвовал в военных учениях. Очевидно, это самое любимое мероприятие мальчика — ведь все мальчишки обожают играть в войнушку, а тут ему отдают честь настоящие командиры.

Когда Николаю шел шестой год, на военных учениях с ним встретился тогдашний президент России Дмитрий Медведев. Как и отец, мальчик был одет в камуфляжную форму, а на поясе у него была кобура с пистолетом золотистого цвета. Российский лидер спросил у Коли, нравится ли ему пистолет, на что Лукашенко-старший подсказал сыну ответ: «Хороший пистолет, потому что президент России подарил».

Кстати, любимая компьютерная игра Коли — танки. На встрече с белорусскими учителями президент Беларуси рассказал, что порой время его «танковых сражений» приходится ограничивать: «Час танки — полтора часа музыки, два часа танки — четыре часа музыки. Пока четыре часа музыки для него трудно, поэтому больше часа в танки он не играет».

**Где Коля?**

Летом младший сын главы Беларуси вдруг пропал. Точнее, исчез из медийного пространства. Последняя встреча Коли на высоком уровне состоялась 21 мая в Ватикане — с Папой Римским Франциском. Спустя неделю мальчик мелькнул в программе «Главный эфир» на телеканале «Беларусь 1» — и с тех пор его не видно и не слышно. Судя по репортажам средств массовой информации, Николая не было рядом с отцом ни в Казахстане, ни в Узбекистане, ни в рабочей поездке в Гомельскую область. Он не участвовал во Всебелорусском народном собрании, пропустил финал конкурса красоты «Мисс Беларусь-2016». И во время зарубежных поездок Лукашенко выходил из самолета один, хотя все давно привыкли, что он всегда держит за руку «малыша». Но заметнее всего отсутствие Коли было в День независимости: впервые за многие годы президент принимал парад в одиночестве. Между тем пресс-секретарь главы государства Наталья Эйсмонт объяснила, что Николай смотрел парад с соседней трибуны вместе с матерью.

Кстати, в июне Ирина Абельская, которую хоть и неофициально, но считают мамой Коли, дала интервью. Беседа с журналистом в основном была посвящена ее профессиональной деятельности. Но несколько слов Абельская сказала и о своих детях, в частности рассказала, что ее старший сын продолжил врачебную династию и стал офтальмологом. На вопрос корреспондента, хотела ли бы она, чтобы и младший сын пошел по ее стопам, Ирина ответила: «Я не задумываюсь об этом. Я бы просто хотела, чтобы он получил хорошее образование, выбрал интересную профессию, любил свою работу, получал от нее удовольствие и приносил пользу и радость другим». Она также сказала, что с детьми в основном строга, но демократична, при этом сыновья часто общаются с ней как с ровесницей: «Но я их притормаживаю: „Стоп, ребята, я вам не подружка"».

С чем связано исчезновение Коли Лукашенко с «политической арены» — можно только гадать. Возможно, он получил право на законные каникулы или проводит время с мамой. Не исключено также, что подросший инфант осознал, что большинство граждан попросту раздражает его публичность и решил до поры до времени уйти в тень.

*(скарочана)*

**Татьяна Кирсанова**
**lenta.ru**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.09.2016 у 16.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.